Цана асобнага нумару 20 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 16. Вільня, Нядзеля 30 Трауня 1926 г. Год II

# Сялянская Ніва

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Вільня, Полацкая вул. 4. — (Wilno, ulica Połocka 4).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.
Газэта выходзіць раз у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц 1 зл., на 3 мес.—2 зл., на 6 мес.—4 зл., на год—8 зл.
Перамена адрэсу 30 гр.



ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Старая песьня.

Палажэньне ў Польшчы нашага сялянства да таго сталася цяжкім, што яно ня перастае ўздыхаць да якой-небудзь зьмены, да якога-небудзь палепшаньня. Дык нічога дзіўнага, што збройнае выступленьне Я. Пілсудскага разьняслося надзейным рэхам па нашых сёлах. Ледзь дыхаючаму пад польскімі панскімі ўрадамі нашаму сялянству здавалася, што ўрэшце наступіў час выбаўленьня і мімавольна вочы яго зварочваліся на Пілсудскага. Сялянству нашаму здавалася, што чалавек гэты ўжо напэўна возьме ўладу ў свае рукі і выступіць у абароне працоўных, бо не дарма-ж палілася іх кроў на вуліцах Варшавы.

Аднак сталася інакш. Пілсудскі дарваўшыся да ўлады, здаў яе сусім лёгкадумна і гэтым паказаў, што ён якім быў, такім і астаўся.

Не адрэчы тут будзе прыпомніць нам недалёкую мінуўшчыну нашага краю. Першы раз, б'ючыся з бальшавікамі і забіраючы нашы землі, Пілсудскі выдаў слаўную адозву да ўсіх народаў гэтых зямель, у якой казаў, што ён дасьць ім свабоду і завядзе жыцьцё на прыгожай аснове: вольныя з вольнымі і роўныя з роўнымі. Тымчасам напусьціў на нас так званы „Zarząd Ziem Wschodnich“ на чале з Асмалоўскім, які прадусім адзначыўся тым, што пазакрываў тую рэшту беларускіх школ, якія былі астаўшыся пасьля нямецкай акупацыі.

Калі-ж другі раз бальшавікі забралі нашы землі і калі Вільня апынулася ў руках літоўцаў, Пілсудскі, адпёршы бальшавікоў і пры помачы польскага войска, названага для затуманеньня вачэй „літоўска-беларускай“ дывізыяй на чале з ген. Жэлігоўскім, якога назваў збунтаваным, аддаў нас пад панаваньне розных „урадаў“ так зв. Сярэдняй Літвы, ад якіх мы апрача зьдзеку ня бачылі бадай нічога. Праўда, Пілсудскі прыракаў, што ў Вільні будзе склікаты Сойм, які і выраша лёс нашага краю. І праўда, гэны Сойм, як ведаем, у Вільні сабраўся, але ня дзеля таго, каб вырашыць наш лёс, але каб землі нашы далучыць да Польшчы. У выбарах у Віленскі Сойм учасьця ня бралі ані беларусы, ані літоўцы, ані жыды, бо ня было адпаведнай свабоды дзеля выяўленьня волі жыхароў краю. Польская „дэмакрацыя“, разам з эндэцыяй, пры падтрыманьні Пілсудскага, Віленшчыну далучыла да Польшчы. Ад абяцанак Пілсудскага не асталося нічога. Ды і не магло нічога астацца, бо нешта гады два таму, Пілсудскі, чытаючы ў Вільні свае лекцыі, публічна заявіў, што ён і сам ня верыў у тое, што гаварыў.

Словам, тады Пілсудскі здаў паном усе пазыцыі. Цяпер-жа, так лёгка выпускаючы ўладу над Польшчай са сваіх рук, узноў стаў ён на той-жа стары шлях. Бо хоць цяпер, пасьля нядаўных варшаўскіх падзеяў, Пілсудскі фактычна мае яшчэ сілу і значэньне, хоць мо' ён і прэзыдэнтам будзе абраны, то ўсё-ж паны яго паволі адапруць узноў і забяруць уладу ў свае рукі.

З гэтага ўсяго ясна відаць, што Пілсудскі ня здольны стаць на шлях сялянскі і работніцкі, які толькі адзін сяньня і зьяўляецца правільным шляхам.

Дык Беларускі Пасольскі Клюб у адозве да беларускага сялянства, слушна адносіцца да палітыкі Пілсудскага і слушныя выстаўляе дамаганьні. Але кожнаму ясна, што з гэных дамаганьняў і найменшай часткі здабыць ня можна навет ад ураду, створанага Пілсудскім. Дык астаецца адно: гэта далейшае арганізаваньне нашага сялянства, далейшая падгатоўка яго да таго, каб само яно сталася кавалём свайго лёсу.

З гэтага ўсяго так-жа ясна, што паслы нашы ад выбараў польскага прэзыдэнта, хоцьбы ім быў і Пілсудскі, павінны ўстрымацца.

## Сяляне Беларусы!

Панскія паслы і іх прыслужнікі, маючы большасьць у Сойме, стварылі ўрад на чале з Вітасам, паслом, каторы здрадзіў сваё сялянства. Урад гэты меў налажыць на ўсё працоўнае сялянства, а тым больш па сялян-беларусаў, яшчэ большае ярмо няволі.

Быўшы Начальнік Польскае Дзяржавы Язэп Пілсудскі на чале часьці адданага сабе войска і пры помачы польскай дэмакрацыі дня 12-га мая 1926 г. збройна заманіфэставаў проці новаўтворанага ўраду Вітаса.

Палілася кроў жаўнераў, сярод якіх было нямала і сыноў беларускага сялянства, адбываючых ваенную службу. У зьвязку з гэтым Вітас са сваім урадам падаўся ў адстаўку, а Прэзыдэнт Войцехоўскі адрокся свайго становішча. Пілсудскі аказаўся панам палажэньня, аднак замест узяць уладу ў свае рукі і стварыць Сялянска-Работніцкі ўрад, стаў на грунт старых спосабаў кіраваньня Польшчай, творачы ў паразуменьні з Маршалкам Сойму Ратаем новы ўрад на чале з паслом Бартлем. У гэтым урадзе Пілсудскі стаўся ваенным міністрам.

Новаўтвораны ўрад складаецца з асоб, якія ўжо былі міністрамі і якія варожа адносіліся да беларускіх спраў і да беларускага сялянства.

Такім чынам няма ніякай пэўнасьці, што новаўтвораны ўрад прынясе палёгку ў жыцьці сялян беларусаў. Дык нашаму сялянству астаецца адна дарога — змаганьне за свае правы, гуртуючыся каля беларускіх паслоў, стоячых на грунце сялянскіх інтарэсаў, якія і далей стойка будуць вясьці барацьбу за зямлю і волю для сваіх сялян.

У зьвязку з вышэйсказаным, ня сходзячы з грунту самаазначэньня народаў, Прэзыдыум Беларускага Пасольскага Клюбу пастанаўляе дамагацца:

1) Неадкладнага роспуску Сойму і Сэнату і новых свабодных выбараў, вызначаючы вольны ад палявых работ час для выбараў.

2) Утварэньня сялянска-работніц. ўраду.

3) Неадкладнага ўвядзеньня асьветы ў роднай мове.

4) Перадача сялянам зямлі бяз выкупу і скасаваньня асадніцтва.

5) Зьмяншэньне дзяржаўных і самаўрадавых падаткаў і поўнага звальненьня ад іх бяднейшых сялян.

6) Амнэстыі для палітычных вязьняў і скасаваньня кары сьмерці і палявых судоў.

7) Правядзеньня неадкладна выбараў у валасныя і павятовыя самаўрады на аснове агульнага, простага, тайнага, роўнага і прапорцыянальнага галасаваньня.

Варшава, 21 трауня 1926 г.

За Прэзыд. Бел. Пас. Клюбу
пас. **Ф. Ярэміч**; пас. **Б. Рагуля**.

## Крывавыя падзеі у Варшаве.

### Серада 12-га мая.

12-га мая войскі Пілсудскага занялі прадмесьце Варшавы—Прагу. Войскі Прэзыдэнта Войцехоўскага прыгатавалася ў Варшаву Пілсудскага ня ўпускаць, дзеля чаго аддзелы 1-га палка, плютоны афіцэрскай школы з кулямётамі і бранявікамі занялі часьць маста Панятоўскага. Іншыя часьці ўрадавых войск занялі Кракоўскае Прадмесьце, Зьезд і акапаліся на лініі Віслы.

Каля гадзіны 5-ай на масьце адбыліся перагаворы Пілсудскага з Прэзыдэнтам, які дамагаўся ад Пілсудскага злажыць аружжа.

«Ані думаю»—адказаў Пілсудскі і з свайго боку дамагаўся адстаўкі ўсяго ўраду. На гэтым і разьвіталіся, ня прыйшоўшы да згоды.

Каля гадз. 7-ай маршалак Пілсудскі загадаў наступленьне на сталіцу.

Пасьля 40 мінутнай страляніны, войскі Прэзыдэнта пачалі адступаць у глыб места. На старану Пілсудскага перайшлі 2 палкі з войск праціўнай стараны

Каля гадз. 9-ай міністры ўцяклі ў Бэльвэдэр—палац Прэзыдэнта.

### Чацьвер 13-га мая.

У гэтым дні вычувалася быццам перавага на старане войск урадовых, дзеля прыходу на дапамогу пазнанскіх палкоў і аэрапланаў, з якіх генэрал Загурскі загадаў бамбардаваць места. Бітва трывала цэлы дзень. Пушчаны ў ход гарматы. На вуліцах, дзе змагаліся крывава, пачалі разьбіраць тратуары і з пліт рабі-

ўчасьця. Сяньня з прыемнасьцяй мы чуем два пагляды, а іменна: адзін—прадстаўнікоў сялянскіх партыяў, а другі з ППС. Адзін сказаў, што тагды ў Польшчы будзе добра, калі прыдзе сялянска-работніцкі ўрад. Другі сказаў, што „да гэтага часу з нялюдзкім высілкам ішлі, творачы ўрад коаліцыйны, але можа гэта былі апошнія спробы“. Вось мушу сьцьвердзіць, што польская дэмакрацыя зраз увесь час здавала пазыцыю за пазыцыяй правай старане Палаты. І сяньня мы бачым вынікі гэтага. Сяньня бачым, што гэтых дзірак, кажучы з расейска, у „Трышкіным кафтане“ не залатаеце, бо кідалі на пажыр ня толькі нашу беларускую справу і нацыянальных меншасьцяў агулам, але вы здавалі і свае ўласныя пазыцыі. І сяньня вы прышлі да перакананьня, што трэба зрываць з гэтай коаліцыяй, бо калі вы Паны гэтага ня зробіце, то вас само сялянства зьмяцець з вашай дарогі; яно прыдзіць і зробіць парадак, бо сялянства, якое ў Польшчы ёсьць у аграмадным працэнце, плаціць ужо далей ня можа. Урад п. Грабскага сялянства зруйнаваў да астатку; давяла яго да бяды гэта апошняя коаліцыя.

Скарбовыя падаткі сяньня павінны заплаціць тыя, якія запраўды абкрадалі скарб гаспадарства, а калі вы, Панове, гэтага ня зробіце, калі ў скарб не дасьцё тых падаткаў, то прыйдуць людзі, якія прымусяць вас да таго, каб скарб напоўнілі тыя, якія яго абакралі.

Дзякуючы палітыцэ коаліцыі, у адносінах да нас беларусаў, дагэтуль мы бачылі адно: п. Ст. Грабскі зьніштажаў і зачыняў нам школы. Бачылі п. міністра Рачкевіча, які тысячамі садзіў нас у турмы. Бачылі п. Зьдзехоўскага, які прымушаў, асабліва ў нас, прадаць апошні кажух, апошняга каня і карову.

Такім чынам урад як папярэдні, так і цяперашні ўрад „тулава“ ў адносінах да нас беларусаў палітыкі ня пераменіў. Дзеля гэтага ад імя Беларускага Клюбу прылучаюся да прапазыцыі Украінскага Пасольскага Клюбу, каб над буджэтным провізорыум перайсьці да парадку дня.

# З Польшчы.

### Вітас пад маскай паліцыянта.

Быўшы прэм'ер-міністар Вітас уцякаючы ад войск Пілсудскага ў Варшаве, каб забясьпечыцца ад гвалтаў з боку салдат, пераадзеўся паліцыянтам і толькі такім чынам удалося незамечаным апынуцца ў сваей вёсцы, дзе калісь быў войтам.

Быў гэты хітрэц ужо два разы галавой польскага ўраду, але цяпер пасьля здрады сялянскіх інтарэсаў хіба-што і ў войты больш не пападзець.

### Пазнанцы яшчэ процiў Пілсудскага.

Насяленьне Пазнаншчыны, якое складаецца пераважна з багатага т. зв. кулацкага элемэнту і рэакцыйнага мяшчанства, ніяк ня можа прымірыцца з пераменай ураду ў Варшаве. Пазнанскія газэты дагэтуль лічаць законным урад Вітаса. Усялякія весткі з Варшавы друкуюцца пад строгім кантролем пазнанскіх уладаў.

Не памагла і адозва маршалка Сэнату Тромпчынскага, які для «успакаеньня» выпусьціў адозву. З адозвы гэнай відаць, што і сам яе аўтар салідарызуецца з тымі, хто ня прызнае варшаўскай улады.

# З заграніцы.

### Абнаўленьне Рады Лігі Народаў.

Камісія для абнаўленьня Рады Лігі Народаў прыняла першы параграф праекту, прадугледжываючы выбары часовых сяброў на 3 гады, прычым кожны год будзе абнаўляцца адна трэцяя часьць. Згодна з гэтым параграфам мандат будзе выдавацца незабавам пасьля выбараў.

### Дамаганьні высылкі савецкіх урадоўцаў.

У Лёндыне значная група сяброў кансэрватыўнай партыі дамагаецца ў свайго ўраду высылкі з Англіі ўсіх урадоўцаў і прадстаўнікоў усіх савецкіх установаў.

Кансэрватары свае дамаганьні просяць зьдзейсьніць незалежна ад таго, якія з гэтага могуць быць скуткі.

### Палажэньне ў Лёндыне.

Ня гледзячы на канчатак вялікікай англійскай забастоўкі, 13 мая палажэньне ў Лёндыне мала перамянілася. Пакуль-што мала работнікаў вярнулася да працы. Трамваі цалком яшчэ стаяць, чыгуначная і аўтамабільная камунікацыя —агранічана і пускаіцца ў рух пры помачы ахвотнікаў. Газэты выходзяць у скарочаным фармаце. Да 18-га мая жыцьцё Лёндыну наладзілася бліжэй да нармальнага.

### У Рызе банкрутуюць.

Тутэйшыя фінансавыя і гандлёвыя кругі сільна занепакоены вялікімі банкруцтвамі. Гэтымі днямі збанкрутавалі 4 вялікія гандлёвыя фірмы. Паміж збанкрутаваўшымі спатыкаюцца старыя даваенныя прадпрыемствы, якія заўсёды лічыліся вельмі паважнымі.

### Аканчальныя вынікі выбараў у літоўскі Сойм.

Вынікі выбараў у літоўскі Сойм выглядаюць так: людоўцы здабылі 24 мандаты, сац.-дэмакраты—15, хрысьціянская дэмакрацыя—14, Сялянскі Саюз—10, Дарбо-фэдэрацыя—5, народнікі—3, „Укінінку“—1, палякі—4, жыды—3, немцы—1, клайпэдцы—5; усяго 85 мандатаў. З вышэйшых цыфраў відаць, што апазыцыя ў сялетніх выбарах узяла верх.

### Забойства Петлюры.

На днях у Парыжы застрэляны на вуліцы вядомы ўкраінскі «атаман» Петлюра, вёўшы калісь вайну з бальшавікамі.

Забойца Шварцэрбэрг заявіў, што шукаў Петлюру ўжо даўно з мэтай забіць за ягоныя зьверствы над жыдамі на Украіне.

### Абд-Эль-Крым здаўся.

Пасьля доўгай вайны з французамі і гішпанцамі ў Афрыцэ, правадыр паўстаньня Абд-Эль-Крым, паводле французскіх вестак, здаўся з сям'ёй і маемасьцяй французскім уладам, аддаючы перад гэтым палонных праціўнай старане.





з назовамі „Крывічы“, „Крывец“ і пад. у паветах Невельскім, Вяліскім, Парэцкім, Смаленскім, Духаўшчынскім і г. п. а тымчасам напэўна ведаем, што тамака Крывічы жылі.

Разгледжу стацьцю Матачову папарадку. На самым пачатку ён кажа, што палажэньне Крывічоў было добрае „для славянскай калёнізацыі“. Яшчэ за доўга да IX стагодзьдзя Славяне рашчапіліся на асобныя народы і казаці аб славянскай калёнізацыі гэта значыць казаці ня точна. Дык трэ' было б сказаці *беларускай* ці *крывіцкай* калёнізацыі. Дзержачыся Барсавага павадка А. Матач зараз-жа зазначае, што Крывічы склалі „галоўную аснову вялікарускай народнасьці“. Дайшоўшы да Масквы, А. Матач на карысьць крывіцкай калёнізацыі тамака прыводзіць довад Доўнара-Запольскага, г. зн. маскоўскае аканьне. Але гэта толькі цень доваду. бо даведзена, што аканьне ў Маскве ўзьнікла пазьней уплывам з паўдня мовы Вяцічоў *). Дзеля гэтага лішняе зусім пытаньне Матача: „Ці лёгічна пасьля гэтага лічыць крыўскую мову „нарѣчіемъ“. Ведама, нялёгічна, але нялёгічна і наадварот. Абедзьве мовы вылучыліся, як самастойныя, з мовы праславянскае і жадная з іх нарэччам другой ня ёсьць. Аб тым, што ў склад маскоўскае народнасьці ўвайшлі Крывічы, сказана зусім бяз жадных довадаў. А. Матач захапіўся, што так шырака расьсяляюць яго родны народ Маскалі, але ён не зацеміў таго, што гэткія Маскалі прызнаюць Крывічоў за маскоўскае, але ня беларускае плямя. Каб Крывічы хоць у невялічкай частцы засялілі зямлю цяперашняй Масковіі, пярэчыць station мова. Мова Віцебшчыны ці Смаленшчыны жадным спосабам не магла стацца моваю маскоўскаю. Мова маскоўская ёсьць простым патомкам ноўгарадзкіх словенаў, якія потым асымілявалі сабе розныя фінскія народы, часткаю турка-татарскія, а на паўдні (на Аццэ) асымілявалі і нашых Вяцічаў.

*) Глянь Н. Дурново: Діалектологическія разысканія въ области великорусскихъ говоровъ. I.2. 1918.

Калі стацьця А. Матача ё лішняй, дык далейшая стацьця *Ю. Сулімірскага*: Аб назовах *„Крывія“ і „Беларусь“* вельмі цікаўная і добрая. Аўтар прыводзіць гісторыю розных імёнаў нашага народу. Гісторыя гэтая пададзена наагул праўдзіва. Зьмест стацьці Ю. Сулімірскага гэтакі. Першым агульным назовам усіх нашых плямёнаў былі „Крывічы“ а краю „Крывія“. На гэта ё множства довадаў.

З часам, калі з цяперашняе Швэдзіі прышлі Скандынавы—Русы, назоў Русь, Русін пашыраецца спачатку на Украіне, а далей і ў Маскоўшчыне. Так-жа з пашырэньнем хрысьцянства на Беларусь гэты назоў прыходзіць памалу і сюды. Але мае ў Беларусі значэньне рэлігійнае і ў некаторай часьці культурнае. У значэньню апошнім абазначаў пісьменнасьць, пісанаю „рускімі“ (бо прывезенымі з Кіева—Русі, як ведама, хрысьцянства, а з ім і славянская пісьменнасьць прышла да нас з Баўгарыі праз Кіеў) літэрамі; і самая нашая мова нярэдка звалася рускай, бо абазначалася на пісьме „рускімі“ літарамі.

Вялікае значэньне мела імя Ліцьвін, Літва. Гэтае імя ня толькі было палітычным, але і нацыянальным. Нашая мова часта завецца гэтым імем.

Імя Белая Русь найпервей ужываецца для абазначэньня Масковіі побач з імем Масковія‘ Маскоўшчына, пры гэтым як у самой Масковіі так і заграніцай Яшчэ раней побач з назовам „Масковія“ маскоўская зямля мела назоў „Чорная Русь“, як паняволеная Татарамі. Але з аслабленьнем татарскае няволі па Кулікаўскай біцьве (1380) ён памалу замяняецца *Белай*, значыць свабоднай, Русяй.

На Украіне яшчэ раней побач агульна-ўкраінскага „Русь“ разьвіўся мясцовы назоў Галіцка-Валынскае зямлі „Малая Русь“. Грэкі сталі ўжываць гэты назоў дзеля азначэньня ўсяе Украіны, а Масковію назвалі Вялікай Русяй. Па зваяваньню Балканскага паўвострава і здабыцьцю (1454) Царграду Туркамі ў Маскву панаехала шмат Грэкаў, Баўгараў і Сэрбаў. Як падзяку за гасьціннасьць яны называюць Маскву „новым Царградам“, „трэцім Рымам“ і ўмаўляюць маскоўскіх цароў, што тыя маюць злучыці пад сваёю ўладаю ўсіх праваслаўных, а тым самым асвабадзіць іхнія бацькаўшчыны ад Туркаў. Дзеля такога злучэньня трэба было наўперад прылучыці праваслаўных суседзяў — Украіну і Беларусь. Тутака выставілі маскоўскія цары дынастычнае дамаганьне, што землі, належачыя калісь роду Рурыкавічаў маюць адыйсьці да маскоўскага цара, як іхняга патомка (хоць у Беларусі Рурыкавічы валадалі толькі ў некатарых мясцох). Калі-ж гэтыя землі ё айчына Рурыкавічаў-Русаў, дык яны мусяць быць Русі. І тут першы раз Масковія назвала нашаю Бацькаўшчыну Русяй, замест дагэнуляшняга Літва. Пры гэтым маскоўская палітыка не пашкадавала нам свайго дагэнуляшняга імя „Белая Русь“, прыймаючы Масковіі і Украіне назовы ад Грэкаў (што грэцкае, то лепшае!): Вялікая Русь і Малая Русь.

Але нашыя прэдкі самі называлі сябе і далей пастарому: Крывіч, Ліцьвін, Крывія, Літва, мова крывіцкая, літоўская, руская, але ніколі беларуская. Прылучаная за Кацярыны II да Масковіі нашая Бацькаўшчына была названа маскоўскім урадам Беларусяй. Але нат гэты назоў здаўся маскалём страшным і быў заменены ў 1831 г. на „Западную Россію“. Ня гледзячы на гэта ў XVIII і XX стагодзьдзю наш народ называюць Крывічамі большасьць пісьменнікаў як паходжаньня нашага, так і маскалёў. Найцікаўней тое, што імя „Крывіч“ яшчэ было ў некаторай меры жывое сярод нашага народу. У 1860 годзе запісалася Крывічамі 26.106 душаў. Свае вывады аўтар пацьвярджае дакумэнтальнымі данымі.

(Далей будзе).

# ХРОНІКА.

— **Справа кс. Гадлеўскага.** Судовая справа вядомага змагара за беларушчыну кс. Гадлеўскага, засуджанага Акружным Судом на 2 гады крэпасьці, будзе ізноў *12 чэрвеня разглядацца ў Апэляцыйным Судзе.*

— **Новая беларуская ўстанова.** Апошнімі днямі зацьверджаны ўладамі ў Вільні статут Т-ва „Беларускі Інстытут Гасладаркі і Культуры".

— **Зацьверджаньне статуту Т-ва Беларускай Школы.** Улады зацьвярдзілі статут Т-ва Беларускай Школы з тэрыторыяй дзейнасьці на ўсю Польшчу. Закладчыкамі Т-ва зьяўляюцца паслы кс. Ад. Станкевіч і Рак-Міхайлоўскі.

— **Канфіската беларускай газэты.** Па загаду адміністрацыйнай улады сканфіскаваны № 11 часопісі „Беларуская Справа".

— **Да ведама харыстаў беларускага мяшанага хору.** Дзеля павялічэньня ў харыстаў працы ў канцы школьнага году, сьпеўкі, якія адбываліся з беларускім мяшаным хорам пад загадам А. Стэповіча, на лета спыняюцца да пачатку новага школьнага году.

— **Пасеўная дапамога.** Дзеля выпаўненьня даўнейшага загаду ўладаў Зямельны Банк даў Віленшчыне дадатковыя пазычкі на пасевы, якія будуць выдавацца хлебаробам у першых днях чэрвеня.

— **Дачакаліся.** „Дзеньнік Віленьскі", які зьмяшчае ўсялякую брахню аб тых, хто ня мае ў п. Обста ласкі, цяпер у сувязі з Варшаўскімі падзеямі, быў на некалькі дзён вайсковай уладай зачынены, рэдакцыя апячатана, а галоўныя эндэцкія пісакі арыштаваны і пасаджаны ў турму.

„Сам" Обст, бачучы непералівкі недзе схаваўся. У яго намешканьні ў часе обыску знойдзена вінтоўка.

Па апошнім весткам арыштаваныя звольнены. „Дзеньнік Віленьскі" пачаў выхадзіць, але з тону, калісь моцна пэўнага, цяпер вельмі спусьціў.

— **Водгукі Варшаўскіх падзей у Вільні.** 12 траўня ў Вільні запанаваў настрой вельмі трывожны. Што дзеіцца ў Варшаве—мала хто праўту ведаў. 13 га траўня раніцай Скарбовая Ізба, Польскі Банк і інш. абстаўлены войскам. Усюды на вуліцах шмат газэтных дадаткаў надзвычайных аб варшаўскіх выпадках. Паявіліся весткі аб высылцы войск на падмогу Пілсудскаму.

Пад вечар, пераважна моладзь з бяднейшага мяшчанства, пробавала арганізаваць дэманстрацыю на чэсьць Пілсудскага. Паліцыя некалькі разоў яе разганяла.

У чацьвер улады вайскавыя прыслалі сваіх прадстаўнікоў у ваяводства, пад наглядам якіх вялася праца. У ночы гэтага дня разлепляна абвестка з падпісам ген. Рыдза-Сьміглага аб тым, што Пілсудскі аб'явіў сябе дыктатарам усей Польшчы. Вестка гэта, як пасьля аказалася, ня была праўдзівай. У працягу наступных дзён, Вільня крышку паспакайнела.

— **Арыштаваныя генэралы ў Вільні.** Вядомыя з нядаўнай варшаўскай бойні генэралы Загурскі і Развадоўскі перавязены ў Вільню ў Антакольскую турму, дзе будуць да суда Пракураторыя ваенная абвінавачвае іх у службовых надужыцьцях.

— **Школьнае хуліганьё гуляе.** Ня пасьпела грамадзянства забыцца аб дзікіх нападах 1-га мая з боку польскага студэнцтва на маніфэстантаў, сяньня ізноў даведываемся аб новых штуках іншых школ.

Жыдоўскія газэты ў дальшым працягу пішуць аб частых выпадках біцьця жыдоў, дзе апрыч студэнтаў спатыкаюцца вучні сярэдніх школ і тэхнічнай школы. Віленская паліцыя ў гэтыя пагромныя з'явішчы ня ўмешываецца.

Гэтак нядаўна група вучняў тэхнічнай школы напала на экскурсыю вучняў жыдоўскай гімназіі Эпштэйна. Так сама здарылася і з экскурсыяй вучняў жыдоўскай рэальнай гімназіі, дзе па дагадках карэспандэнта газэты „Вільнэр Тог" у нападзе прынялі ўчасьце вучні гімназіі Лелевэля.

У сувязі з гэтым пасол др. Выгодзкі напісаў у газэце адкрытае пісьмо Куратару Школьнага Округу, пад загалоўкам: „Аб зьдзічэньні школьнай моладзі ў Вільні", у якім, паміж іншым, дамагаецца выдаленьня з школ вінаватых вучняў.

— **Стан безрабоцьця.** На 19 мая па даных Віленскага Бюра Пасрэдніцтва Працы лічылася безработных 5479 душ, з чаго мужчын 4080 і 1399 жанчын.

— **Курс доляра ў Варшаве** на 26.V. афіцыяльна лічыўся 11 зл. Залаты рубель 5 зл. 65 гр.

25 мая на чорнай біржы ў Вільні плацілі за даляр 11 зл. 30 гр.

## Да ведама інвалідаў.

Інваліды, якія дзякуючы тым ці іншым прычынам не пасьпелі зарэгістравацца да 1922 году і якім цяпер улады не прызнаюць рэнты, часта зварочываюцца да Беларускага Пасольскага Клюбу з прозьбай аб заступніцтве. У зьвязку з гэтым падаём да ведама інвалідаў, што Беларускі Пасольскі Клюб у гэтых справах рабіў захады перад уладамі і падаваў інтэрпэляцыі, але ўлады ўпарта трымаюцца вызначанага тэрміну і ня хочуць прызнаваць рэнты інвалідам, якія прапусьцілі тэрмін для рэгістрацыі.

Апрача таго Беларускі Пасольскі Клюб дня 9 чэрвеня 1925 г. падаў у Сойм прапазыцыю аб зьмене ўставы ад 18.III. 1921 г. у справе інвалідзкіх рэнтаў, далучаючы да сваей прапазыцыі новы праект уставы, які меў-бы абняць усіх інвалідаў арміі расейскай, польскай і іншых і ў якім тэрміне для рэгістрацыі інвалідаў быў-бы прадоўжаны да 31 сьнежня 1925 г.

Гэты праект Беларускага Пасольскага Клюбу дагэтуль ляжыць у Камісіі Грамадзкай Апекі і Інвалідзкай Сойму, а вызначаны для зрэфараваньня яго пасол Бегоньскі (польскі эндэк) ня хоча выпускаць яго на разгляд, бо яго партыя і наагул большасьць цяперашняга Сойму стараецца „бараніць польскага скарбу", коштам інвалідзкіх рэнтаў інвалідаў-беларусаў. Пры цяперашніх умовах няма ніякай надзеі, каб вышэй успомненая прапазыцыя Белар. Пасольскага Клюбу прайшла праз Сойм.

Аднак вышэй падане яшчэ не азначае, што інваліды ўжо на ўсё жыцьцё асталіся пазбаўлены магчымасьці атрымаць належнай ім рэнты. Беларускія паслы будуць дабівацца прызнаньня інвалідам-беларусам інвалідзкай рэнты і калі ня ўдасца ім правесьці гэта праз гэты сойм, то магчыма ў новым будучым Сойме, калі будзе ён мець большасьць баронячую інтарэсы нацыянальных меншасьцяў, беларускія паслы правядуць адпаведную ўставу аб інвалідзкіх рэнтах, а тады-ж інваліды, якія не зарэгістраваліся ў вызначаным тэрміне будуць магчы рабіць узноў захады аб прызнаньні ім рэнты.

Варшава, 12.5 1926.

*Сэкрэтарыят Бел. Пас. Клюбу.*

# Пісьмы з вёскі.

### Вырадак.

**Барадзенічы,** Браслаўскага павету.

Вёска наша крэпка беларуская, толькі адзін ёсьць чалавечак, каторы сам сябе лічыць нейкім чужаземцам. Завецца ён пан Цітовіч Язэп. Мы добра знаем, што бацька ягоны, дзед, прадзед і г. д. жылі ў гэтай вёсцы, гаварылі пабеларуску і былі беларусамі. Але ён ёсьць нейкі вырадак, затое, што надта ня любіць беларускай мовы і кажа, што яна вельмі брыдкая, ня гледзячы на тое, што і сам інакш ні папольску, ні парасейску гаварыць ня ўмее. Надта яму падабаецца польская мова і лічыць сябе ён паляком, але мне здаецца, што гэта ён моцна памыляецца. Быў такі факт, што калі ўсе людцы пацавалі дэклярацыі на беларускую школу. то і ён гэта зрабіў, бо ўвідзеў, што ўсе людзі робяць. А праз некалькі часоў, калі прыйшоў да яго вучыцель і сказаў „пане Цітовіч", дык ён з тэй радасьці, што яго назваў панам, падпісаў дэклярацыю і на польскую школу. Сьмех бярэць гледзячы на такіх людзей, каторыя не ўлалаюць самі сабой і дзеля гэтага з яго ніякай ня мае карысьці ні Польшча ні Беларусь. *Харытон Кутарга.*

### Чым Горадзенскі Магістрат корміць сваіх працаўнікоў.

**М. Горадня.**

Горадзенскі Магістрат як і кожны гаспадар мае сваіх працаўнікоў, але адкормлівае іх... сьвежым сьвіным салам. Робіцца гэта вось як: Прыпрэ бяда селяніна прадаць кабана. Заколе, асмаліць і вязе ў места. Яшчэ перад уездам мусіць заплаціць 50 гр. „тарговэго", пасьля 10 гр. „мостовэго", а ўжо на санітарнай станцыі будуць браць „сьвіновэго". Паложаць на вагі, зважаць і цавай кабана рэзаць. Стаяць тут пры вагах тры магістрацкія працоўнікі выглядом падобны да сваіх няжывых „кліентаў": у двух з іх хвартухі ледзь сходзяцца на жыватох, вочы пазаплывалі жырам і на'т фізіі пазадзіраліся ў гару, а трэці, меншы чынам, увесь расьце ў вусы. Вось бярэ адзін з іх відэлец з ножам і давай рэзаць кабана ад сьцягнякоў, лапатак, з бакоў; наложыць вусатаму поўныя прыгаршчы (з паўкіля) кавалкаў сала і мяса і нясуць да дохтара. Як ведама дохтару, дзеля агляду пад мікраскопам даволі вельмі малога кусочка, а гэтыя нарэзаныя прыгоршчы сала віцаць ідзець на тое, каб успомненыя хвартухі не сходзіліся. Мала гэтага: за ўсю гэту цэрэмонію трэба заплаціць па 1 зл. з пуда, ды яшчэ плаці сьвінабою за вагу (ён ня верыць таму, што напісана ў санітарнай картачцы).

За дорага бярэце, паны санітары! Даволі было б з нашага брата бедняка і па 1 зл. за штуку і важыць было-б лішве: настаўляў на бок кабану пячаткоў, узяў 1 зл. і годзе! Але не. Магістрату, бачыце, трэба дзяржаць у парадку гарадзкія сады, падкормліваць артыстаў паньствовага тэатру і г. д. А нам, далёкім ад места сялянам, што за бяда да вашых садоў і тэатраў! *Мірскі-Лабоцкі.*

### Як я людзям спадабаўся.

**М. Браслаў.**

Пахваляюся я чытачам „Сялянскай Нівы" як да мяне перамянілі адносіны мае суседзі і з хат сваіх ня ганяюць, што даўней, прызнацца, здаралася.

А было гета так. Адзін мой стары дружбак польскі вучыцель нараіў мне выпісаць польскую газэтку „Глос Віленьскі". Я так і зрабіў. Не разабраўшыся з гэтай газэткай пайшоў у вёску З. Там пагутарыўшы выймаю газэту з кішаня і пачаў чытаць. Добра ня помню, што ў ей было напісана; мне тут і памяць адняло на мейсцы, бо мае слухачы калі ня крыкнуць: „Вон з хаты з такой газэтай!" „іш ты, падліза панскі!" Я тут чуючы, што як пчолы ў вулі загудзелі на мяне мае знаёмыя—ратаваўся ўцечкай.

Іду я праз вёску і стыдна мне вачэй паказаць на сьвет, а ў галаве рожныя думкі творацца. Прыпомніў я словы вучыцеля: „Тшэба польскосьць на крэсах шэжыць, усьвядамяць люд вёсковы, жэ сон вшысцы полякамі".

Цяпер я дагадаўся, што пайшоў не па той дарозе. Уцяміў я тут, што я беларус і дружбу павінен вясьці з беларускім вясковым народам, а не з Юдашамі, каторыя як Юда Хрыста здраджаюць. Так нам шляхта і паны прызнаюцца, калі хто да іх падаецца, што „естэсьмы рувнымі родакамі".

З тэй пары пачаў я выпісваць беларускія газэты. Сяляне-ж мяне на гвалт просяць, каб ім іх чытаў, што я і раблю. Слухачы мае ловяць жыўцом кожнае слова вычытанае з „Сялянскай Нівы" і „Беларускай Крыніцы".

Пасьля гэтага сталі мяне сяляне ў вёсцы любіць больш як якога ксяндза. *Зыдор.*

### Сам сябе выбраў.

**Шчэрчэва,** Пружанскага павету.

У месяцы сакавіку г. г. мелі адбыцца ў вёсцы Шчэрчэва выбары да Гміннай Рады. Як толькі сабраліся ўсе кандыдаты, то старшыня камітэту Каз. Казлоўскі, ня гледзячы на пратэсты сабраўшыхся паставіў у сьпісак тых кандыдатаў, каторых прысутныя зусім не хацелі бачыць у Гміннай Радзе. Сабраўшы каля 20 галасоў пры ўстрымаўшыхся больш сотні, Казлоўскі выбраў сам сябе і падобных яму сваіх сяброў.

Незадаволеныя гэтымі камэдыянцкімі выбарамі, сяляне паслалі заяву беларускаму паслу Ярэмічу з прозьбай выстарацца правядзеньня новых справядлівых выбараў. *Падарожны.*

# Наша пошта.

**Юст. Семашкевічу.** Гэта магчыма, на жаль, толькі для жыхароў м. Вільні.

**Селіцкі Ксавэры.** Пісьмо вельмі ня выразна напісана, не дагадаліся мы чаго Вы прасілі.

**Паўлюкевічу Янку.** Просьбу спаўняем. Грошы прышлаце як пабагацееце.

**Міх. Жычліваму.** Дзякуем за спачуцьцё нашай справе. Адносна закранутага Вамі пытаньня, радзім учытацца добра у праграму Беларускага Сялянскага Саюзу, а праканаецеся аб сваей памылцы.

**А. Сталюку, Шыбуту і Голцэ.** З прысланага матэр'ялу пастараемся скарыстаць.

**Вясковаму хлопцу з пад Юраўлян.** Друкуем.

**А. Д . . . у.** У Вашым вершы ёсьць такія „кветкі":

„Груша ўжо пасьпела —
„Роўна з кулаком".

Ці-ж не маглі Вы найсьці нейкай меней страшнай меркі?

Або: „Месяц пасылае
„Бліскучы прамычкі
„Многа іх мае
„Цэлыя пучкі".

Каб навет праменьні месяца можна было-б зьбіраць у пучкі і вязаць іх як венікі, то йзноў іншыя мейсцы Вашага верша не пазваляюць друкаваць яго.



Рэдактар і выдавец **Ст. Вольскі.**

Друкарня „Люкс" Вільня, Жэлігоўскага вул. № 1.